

# Беларус

*Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!*
Францішак Багушэвіч (1840-1900)

№ 376 Сьнежань 1990
Год выд. XXXIX

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу**

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!

*«Але, як прышла поўня часу, Бог паслаў Сына Свайго, народжанага з жанчыны, народжанага пад законам, каб мы атрымалі ўсынаўленьне» (Гал. 4:4-5).*

Дарагія Браты й Сёстры!

Хрыстовае нараджэньне ня было выпадковым. Гэта было спаўненьне абяцаньня Божага. Хрыстос прыйшоў па доўгім часе прароцтва пра Ягоны прыход. Сьв. ап. Пётра кажа рымскаму сотніку: «Пра Яго ўсе прарокі сьветчаць» (Дзеі 10:43). А калі мудрацы з усходу запыталіся ў Ірада, дзе кароль гэбрэйскі нарадзіўся, Ірад раіўся са сваймі старшынамі, якія сказалі яму: «У Бэтлееме Юдэйскім» (Мц. 2:5). Бо так пісалі прарокі.

Калі прыйшла поўня часу, «Бог паслаў Сына Свайго» — не прарока, не патрыярха, не сьвятара, не анёла зь нябёсаў, ані караля, але Свайго уласнага Сына. «Бог, Які шмат разоў і ўсялякімі спосабамі прамаўляў здаўна да айцоў нашых праз прарокаў, гэтымі апошнімі днямі прамовіў праз Сына Свайго, Якога ўстанавіў спадкаемцам усяго: празь Якога вякі стварыў» (Гэб. 1:1-2). Пэўна-ж, што ў гэтым прыгатаваньні праз прарокаў Бог меў мэту, пра якую ап. Павал кажа: «Каб адкупіць тых, што пад законам, г.зн. выкупіць грэшнікаў ад засуджэньня на сьмерць. «Але ўсім тым, што прынялі Яго, даў ім права стаццаа дзяцьмі Божымі», гэтак тлумачыць ап. Ян (Ян 1:12). Выкупленьне дарагацэннай крывёй Ісуса Хрыста чыніць іх «прычасьнікамі Боскае прыроды», пацьвярджае ап. Пётра (2 Пёт. 1:4). А Сам Госпад кажа гэтак: «Бо Сын Людзкі прыйшоў шукаць і ратаваць загінулых» (Лк. 19:10).

Госпад прыйшоў, каб ратаваць. Ён учыніў усё гэта, каб мы маглі атрымаць назад тое месца ў сям'і Бога, якое мы страцілі праз свой грэх. Сьв. ап. Ян зьвяртае нашу ўвагу й кажа: «Глядзеце, што за любоў даў нам Айцец, каб нам звацца дзяцьмі Божымі, і мы імі ёсьць» (1 Ян 3:1). А Госпад кажа: «Я ўжо не заву вас нявольнікамі, бо нявольнік ня ведае, што робіць гаспадар ягоны; але Я вас назваў прыяцелямі, бо з усім, што пачуў у Айца Свайго, Я азнаёміў вас» (Ян 15:15).

Дарагія мае Барты й Сёстры, нашу краіну, наш народ наведалі два вялікія няшчасьці. Адно — гэта выбух чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, які затруціў наш народ і блізу ўсю тэрыторыю Беларусі. Гэта няшчасьце фізычнае: пагроза здароўю, калецтва, хваробы. Але ёсьць і другое ня менш страшнае зьнішчэньне — гэта зьнішчэньне нашае мовы, гісторыі й культуры, інакш кажучы, зьнішчэньне нацыянальнае сьвядомасьці.

У дзень сьвяткаваньня Нараджэньня Хрыстова памятайма слова Ягоныя: «Бо Сын Людзкі прыйшоў шукаць і ратаваць загінулых». Вось Ён, Збаўца наш, і паслаў гэты час адраджэньня, каб наш народ таксама мог адрадзіць сваю мову, гісторыю, культуру, нацыянальную сьвядомасьць і незалежную Беларусь.

Сьв. ап. Павал кажа: «Дзеля гэтага ты ўжо не нявольнік, але сын, а калі сын, дык спадкаемца Божы праз Хрыста» (Гал. 4:7). Мова ды само жыцьцё нашага народу — гэта дар Божы. Таму, паводле Божага закону, мы маем поўнае маральнае права вярнуць сваю мову, гісторыю, культуру й незалежнасьць.

Бог дапусьціў Шатана да справядлівага Ёва, каб Шатан пекаранаўся, што Ёў сапраўды пабожны. Ці не выпрабоўвае Бог і нас для збаўленчай місійнай працы? Няглядзячы на вялікія пакуты, на нязносныя цярпеньні, беларускі народ адказаў бязбожнікам словамі Ёва: «Далёка я ад таго, каб прызнаць вас за справядлівых; пакуль не памру» (Ёў 27:5). І ўпэўнена кажа: «Не адракуся ад беззаганнасьці свае. Моцна трымаў я справядлівасьць сваю і не пакіну яе; ня ўпікне мне сэрца маё ўсе дні мае» (Ёў 27:5-6).

Браты й Сёстры, у дзень Нараджэньня Хрыстовага радуйцеся, бо Хрыстос і да нас зыйшоў. Радуйцеся тым, што першае надрукаванае Сьв. Пісьмо ўва ўсходніх Славянаў было на нашай сьвятой беларускай мове. Радуйцеся слаўнай гісторыяй нашай дзяржаўнасьці ў пару Княства Полацкага і за часамі Вялікага Княства Літоўскага. Радуйцеся вялікай радасьцю, што наш сьвяты Беларускі Народ ажывае ў сваіх імкненьнях да свабоды. Радуйцеся Нованароджаным Госпадам і Збаўцам нашым Ісусам Хрыстом, што й да нас Ён завітаў.

*Хрыстос Нарадзіўся!*

Каляды 1990 г.
Таронта, Канада

**Архіяпіскап Мікалай, Першы Ярарх**
**Беларускай Аўтакефальнай**
**Праваслаўнай Царквы**







*Абраз работы Аляксея Марачкіна. Фота Алекса Сільвановіча*

### БРАШУАРА АБ ЧАРНОБЫЛІ Й ТРАГЕДЫІ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва «Полымя» выдала парасейску й па-ангельску ілюстраваную брашуру пад заг. «Чарнобыльская катастрофа і трагедыя Беларусі». На 24 старонках публікацыі падаецца, апрача асноўных статыстычных дадзеных, агульная ацэнка палажэньня. «Чарнобыльская аварыя, — сказана ў выданьні, — гэта найбольшая за ўсю гісторыю Зямлі катастрофа. Ліквідацыя ўсіх ейных вынікаў, на жаль, немагчымая. Цяпер толькі пачаўся працэс іхнага асэнсаваньня».

### ПАДЗЯКА ЗА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Да апошніх трох нумароў «Беларуса» прыслалі прэсавыя выразкі або копіі наступныя асобы, якім шчыра дзякуем за ўзбагачаньне зьместу нашай супольнай газэты: Л. Стагановіч, В. Махнач, Б. Паўке, К. Верабей, П. Барысік, С. Гутырчык, Ф. Бартуль, А. Лашук, Я. Міхалюк, С. Карніловіч, П. Нядзьвецкі, Я. А., Р. Тамушанскі, А. Арэшка, Б. Кіт, А. Маркевіч, Г. Сагановіч, С. Яновіч, Я. Жамойцін, В. Стэх, С. Дуж-Душэўскі.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Адам Мальдзіс**

# АДЗІН ЗЬ ПЕРШЫХ БЕЛАРУСКІХ ДУХОЎНІКАЎ

Беларуская духоўнасьць, якая сёньня адраджаецца, мае багатыя традыцыі. Яе бурнае разьвіцьцё, перапыненае потым рэпрэсіямі — і ў нашай краіне, і ў даваеннай Польшчы — супала ў часе зь беларускім нацыянальным Адраджэньнем «нашаніўскай» пары, стымулявалася ім і, у сваю чаргу, само таксама стымулявала дабратворныя зьявы ў нашай культуры. Дастаткова прыгадаць літаратурную творчасьць ксяндзоў К. Стаповіча (Янкі Сваяка), Я. Семашкевіча (Янкі Быліны), А. Астрамовіча (Андрэя Зязюлі) і іншых.

Менш вядомае сёньня імя пралата Фабіяна Абрантовіча. Між тым на небе беларускай духоўнасьці ён павінен зіяць зоркай першай велічыні — побач з Казімірам Сваяком і Адамам Станкевічам.

Зьвесткі пра драматычнае жыцьцё і самаадданую дзейнасьць Ф. Абрантовіча, сабраныя мною з розных крыніц: зь яго біяграфіі, напісанай інжынерам А. Клімовічам і перададзенай (пасьмяротна) у адзьдзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН БССР, з артыкулаў і ўспамінаў, надрукаваных пасьля вайны ў Рыме і Лёндане. Частка інфармацыі ўзята зь беларускай пэрыёдыкі 1910-20-х гадоў.

Фабіян Абрантовіч нарадзіўся ў Наваградку 4 верасьня 1884 году. Скончыў у Вільні рымска-каталіцкую сэмінарыю. 9 лістапада 1908 г. быў высьвечаны ў духоўнікі і паехаў у Лювэн (Бэльгія), каб працягваць там вучобу. Як доктар багасловя вярнуўся адтуль у 1912 (па іншых крыніцах — у 1914) годзе. Неўзабаве Ф. Абрантовіча прызначылі прафэсарам Пецярбургскай духоўнай сэмінарыі. Разам з А. Хвецькам ён пачаў наладжваць там беларускае каталіцкае жыцьцё. 24-25 мая 1918 г. яны склікалі ў Петраградзе зьезд беларускага каталіцкага духавенства, пазьней заснавалі «Беларускую каталіцкую злучнасьць», што з часам разьвілася ў Беларускую хрысьціянскую дэмакратыю.

У 1918-1920 гг. Ф. Абрантовіч быў рэктарам Менскай беларускай каталіцкай духоўнай сэмінарыі. Тады-ж зблізіўся зь Янкам Купалам, апекаваўся ім, калі ён цяжка хварэў. У артыкуле ксяндза П. Татарыновіча «На маргінэсе ўспамінаў пра Янку Купалу», апублікаваным у рымскім часопісе «Зьніч», мы знаходзім такія радкі: «Дарэчы якраз і ўспомніць аб гэтым, пішучы адначасна ў гэтым-жа нумары ўспаміны і аб вялікім вучоным прыяцелі паэта кс. Ф. Абрантовічу, на маёвых беларускіх канфэрэнцыях якога 1919 г. я бачыў яго што вечар. Філязафічныя канфэрэнцыі гэтыя ды аўтарытэт самой асобы іх аўтара рабілі на Купалу магутны і, хто ведае, ці не дэцыдуючы (рашаючы — А. М.) на ўсё жыцьцё ўплыў. Дзякуючы хіба гэтаму ўплыву і спавядаўся ў яго перад крыху рызыкоўнай апэрацыяй. Дый ці-ж аднаго такога прыяцеля Купала меў? З адным зь іх, вельмі блізкім і пажылым, кс. Рамейкам, меў і я гонар гасьціць у паэта. Жыў тады ля парку менскага ў прытульным, хоць скромным асабнячку. Вельмі сымпатычна прымалі нас з жонкаю скромнай пачосткай і шчырай бяседай. Незацёртае ўражаньне з гэтай візыты мне і да сёньня гаворыць аб Купале і Купалісе як аб людзях веруючых» («Зьніч, 1952, № 19, с. 5).

Аднак вернемся да Фабіяна Абрантовіча. У 1921 годзе разам з сэмінарыяй ён перанёсься на радзіму, у Наваградак. Там-жа пачаў (ці працягваў) перакладаць на беларускую мову Сьвятое Пісаньне — урыўкі з гэтага перакладу чыталіся ў наваградзкіх сьвятынях у 1923 годзе. Заснаваў у Наваградку і беларускую гімназію, а калі апошняя стала на ногі, перавёў сэмінарыю ў Пінск. Займаў актыўную грамадзянскую пазыцыю ў нацыянальных справах. Да прыкладу, у 1925 годзе разам з прафэсарам Віленскай духоўнай сэмінарыі Язэпам Рэшэцем, беларускім паслом у польскім сойме кс. Адамам Станкевічам і пробашчам у Жодзішках кс. Вінцэнтам Гадлеўскім паставіў свой подпіс пад мэмарыялам-пратэстам супраць крыўдаў Беларусаў-каталікаў. У адказ пачаліся праследаваньні. У 1926 годзе Ф. Абрантовіч вымушаны быў паступіць у Беларускі адзьдзел манастыра а. Марыянаў у Друі. У 1928 годзе яго паслалі апостальскім візытатарам каталіцкай адміністрацыі ў Маньчжурыі (з цэнтрам у Харбіне). Арганізоўваў там школы, выступаў за збліжэньне народаў Усходу і Захаду. У Вільні вышлі асноўныя філязофскія працы пралата — «Бог» (1928) і «Чалавек» (1929).

Жыцьцё Фабіяна Абрантовіча закончылася трагічна. У 1939 г. ён прыехаў на радзіму, у Наваградак, на адпачынак, і тут яго засьпела вайна. Службовыя абавязкі клікалі яго ў Харбін. Таму спрабаваў перайсьці толькі што ўстаноўленую савецка-нямецкую граніцу. Далейшы лёс Ф. Абрантовіча дакладна невядомы. Паводле А. Клімовіча, найбольш верагодна, што яго расстралялі ў Львове або вывезьлі ў Сібір. Аднак былі чуткі, нібыта яго яшчэ ў 1943 г. бачылі ў Маскве ў адной з турмаў. Лёнданскі часопіс «Божым шляхам» падаў як дату сьмерці 1940 год. Так ці інакш, адзін зь беларускіх будзіцеляў стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій.

Сёньня, калі шырыцца рух за беларускі каталіцкі касьцёл, Фабіян Абрантовіч можа і павінен стаць для ўдзельнікаў гэтага руху яскравым духоўным прыкладам.

### *«БЕЛАРУСЬ АБУДЖАЕЦЦА»*

Пад гэткім загалоўкам зьмешчаны ў прэстыжным брытанскім часапісе The World Today (№ 11/90) артыкул Веры Рыч, аўтарытэтнае спэцыялісткі ў беларускіх пытаньнях. Часапіс выдаецца ў Лёндане Каралеўскім Інстытутам Міжнародных Справаў.

**Гай Пікарда**

# НА СКАРЫНАЎСКІХ СЬВЯТКАВАНЬНЯХ

*(Працяг, пачатак гл. у № 375)*

**Фрагмэнты зь дзёньніка**

*7 верасьня*

Цугам аўтобусаў выбраліся мы зь Менску да «слаўнага места Полацкага». Наш шлях пралёг праз «малую Швайцарыю» лагойскіх узгоркаў у кірунку Лепеля. Праехаўшы поўдарогі, мы спыніліся каля пакрытага соснамі сьхілу гары. Тут, ля прыдарожнага заезду, нас віталі сябры мясцовага Савету, шыкарна адзетыя, са сьпевакамі й народнымі танцорамі. Статная старэйшая жанчына прыпаднесла нам традыцыйныя хлеб-соль і яблычны квас. Загучэлі песьні, завіхрыліся танцоры пад гукі цымбалаў, дудак і акардэонаў, калі нас падводзілі на перакус да кактэйлевых сталоў, застаўленых канапкамі, нарэзанай вяндлінай, булачкамі й тортамі.

Ня ўсьпеў я зрабіць накід на паперы нотаў аднае песьні, запісанае для Полацку Крыстыянам Шлегелем ў 1780-х гадох, як музыкі зь вялікім запалам выканалі яе поўнасьцяй гарманізаваную. Аднаго з маіх сяброў-«старагвардзейцаў», Анічэнку, падхапіла да танцу нейкая вясёлая й наважаная дама. Я ўцёк да прылаўку з кавай.

Усеўшыся назад у аўтобусы, мы глядзелі, як плывуць узодўж вакон узьлескі вазёрнай Беларусі. У добра дагледжаных вясковых гародах прыкідваліся кветкі; шэрыя далягляды, здавалася, сумавалі па царкоўных шпілях і купалах, якія апісаныя з такім замілаваньнем Напалеонам Ордам. Ня зглездзеў я ніводнага аж пакуль над аддаленай істужкай Дзьвіны не заірдзеліся вежы Сьв. Сафіі.

Нашым наступным супынакам стаўся раўнінны й экалягічна запушчаны Новаполацак, дзе ў пустынным, але ня скажаш каб нявыгодным гатэлі «Беларусь» мы карысталіся стрыманай гасьціннасьцю на працягу двух дзён. Лярыса Пятроўна паклапацілася, каб нам была забясьпечаная шыкоўная яда ў суседнім рэстаране, дзе мы й паелі перад ад'ездам на ўрачыстае паседжаньне ў Полацку.

У прасторным Палацы культуры адбылося ўвечары ўшанаваньне памяці Францішка Скарыны. Пасьля ўступное прамовы др. Станіслава Скарыны, які сядзеў у цэнтры перад партрэтам свайго славутага прашчура, прамаўлялі адзін па адным заслужаныя мужы. Але калі выступіў, свабодна трымаючыся, Джым Дынглі, ягоныя першыя словы «спадарыні й спадары» выклікалі буру воплескаў, а мой 13-гадовы сусед аж падскокваў ад захапленьня (пасьля я даведаўся ад Міністра замежных справаў БССР Краўчанкі, што гэта быў ягоны сын). Адзіны раз зарэагавала заля працяглымі рытмічнымі воплескамі, калі Дынглі абвесьціў, што ён будзе прамаўляць на «лёнданскім дыялекце беларускае мовы». Гэта было кантрастам да стрыманае рэакцыі слухачоў на расейскамоўныя выступленьні некаторых праваслаўных дастойнікаў зь іхным напорным называньнем Скарыны «Георгіем».

Канцэрт меў цудоўныя мамэнты: выступленьне хлапецкага хору Віцебскае мастацкае школы і хору Пэдагагічнага інстытуту (пад кіраўніцтвам Віталя Раўжы), раскошны паказ народных песьняў і танцаў дзіцячымі ансамблямі «Камарыкі» і «Таўкачыкі» (кіраўнікі Часлаў Клачко і П. Казлоў), якія былі-б на сваім месцы і на Брадвэі. Добра прыняла публіка й харавое выкананьне дзьвюх песьняў Юрыя Семяняко.

Беларуская шчодрая гасьціннасьць паказала сябе і на прыняцьці таго-ж вечару ў полацкім гарсавеце. Уздымаліся тосты за тостамі ў атмасфэры прыязнага зближэньня. Карэспандэнты «Голасу Радзімы» — маладыя й прыемныя людзі, але я з ахвотай выпіў-бы чарку з Алесем Бажком — быў, здаецца, гэткі. О, як мяняюцца часы!..

Вярнуўшыся ў гатэль, даведваюся, што — так! — адзначаецца чыйсьці дзень нарадзінаў. Тут бутэлькі, там скрынка шакаляды. Пачынаем сьвяткаваць. Я згубіў недзе акуляры. Няпэўнай хадой дабіраюся да ложка.

*8 верасьня.*

Я заспаў. Аўтобусы ад'ехалі. Ці даруюць мне? Ну, нічога. Каля гатэлю, на маё шчасьце, бачу а. Матусэвіча. Ён таксама едзе ў Полацак, бяды няма. Ён спыняе, як таксі, міліцыйную машыну, і той затрымваецца. Кароткая размова, і мы едзем з фасонам праз Дзьвіну ў стары горад. У нас на прагараме зьведаньне полацкіх вуліцаў, дзе адбываюцца кірмашы, стаяць яткі, дзе тоўпяцца танцаўнікі, сьпевакі, кавалі, прадаўцы рознага тавару. Мой кампаньён — салідная фігура, што зварачае на сябе ўвагу сваёй сутанай і барэтам. Старыя жанчыны ўсьміхаюцца нам: «Пахвалёны Езус» — «Навекі. Аман!» Тэлевізійная камэра настаўляе на нас сваё «вока», каб пасьля таго-ж вечару паказаць нас на мігатлівым экране.

Каля манастырскіх будынкаў 17-га стагодзьдзя, што ўзвышаюцца над Дзьвіною, хор менскае філярмоніі (пад кір. Мацюкова) выконвае Абрантовічаву «Божа, што калісь народы», напісаную ў недалёкай адсюль Друі, і калядку «Сяньня дар багаты» зь лёнданскага выданьня. Часы запраўды зьмяніліся. Гучыць яшчэ раз «Магутны Божа».

Уздоўж лісьцястага праспэкту Карла Маркса прагульваюцца групы пешаходаў. Усюды разьвейваюцца бел-чырвона-белыя сьцягі. Зьбянтэжаны малады міліцыянт губляе шапку, якую дэманструюць на сабе шумлівыя студэнты перад тым як вярнуць яе ейнаму ўласьніку.

Афіцыйнае адкрыцьцё Музэю гісторыі друку імя Ф. Скарыны зацягваецца, бо музэйныя працаўнікі яшчэ не вярнуліся з абеду... Прынамся гэта засталося бязь зьменаў. Арганізаваная пры дапамозе Адама Мальдзіса, выстаўка добра выглядае сваймі шматлікімі мастацкімі экспанатамі, дыяграмамі ды павялічанымі рэпрадукцыямі Скарынавае Біблії.

У саборы Сьв. Сафіі адбываецца юбілейны скарынаўскі канцэрт царкоўнай музыкі. Трэба сказаць, што літургічныя творы Рахманінава вельмі цудоўныя і, магчыма, новыя для шмат каго, але былі заўвагі, што праграма рэлігійнай музыкі ў запраўднасьці была неадпаведнай, паколькі свабодна можна было ўзяць добрыя беларускія царкоўныя сьпевы са старых ірмалогіяў, дый ёсьць творы сучасных кампазытараў адпаведныя для такой нагоды. З галасам было адмоўлена права ўваходу ў залю высокаму барадатаму маладому мастаку зь Вільні, які меў з сабою нацыянальны сьцяг, а таксама ня ўпусьцілі чалавек дваццаць іншых юнакоў з нацыянальнай сымболікай, якія пратэставалі, што канцэрт выкарыстоўваецца для прапаганды Расейскай патрыярхальнай царквы і ейнае культуры. Незважаючы на ладную колькасьць міліцыянтаў, якія, становяць, як выглядае, частку антуражу Мітрапаліта Філарэта, пэўная коль-

касьць сьцягоў зьявілася ў задзе сабору з-пад спаднічак маладых дзяўчат і, пад суровымі позіркамі міліцыі, канцэрт прайшоў бяз прыкрых выпадкаў.

Хор Беларускага радыё й тэлебачаньня пад кіраўніцтвам Роўды з адчуваньнем выканаў расейскую царкоўную музыку Рахманінава, Часнакова і Бартнянскага. Мітрапаліт Філарэт на заканчэньне праграмы вёў прачулую «Вечную памяць» — на жаль, ня тую цудоўную вэрсію, што ведамая з Супрасьля яшчэ з часоў Францішка Скарыны. Нараканьняў на адсутнасьць у праграме беларускіх царкоўных сьпеваў ня мог ня чуць пры адыходзе архіерарх, які азірнуўся і пайшоў далей.

Пасьля прыняцьця й вячэры ў Новаполацку мы занялі пакінутыя для нас месцы на стадыёне «Спартак», каб стацца сьведкамі вялізманага юбілейнага відовішча. У праграме яго ўзялі ўдзел заслужаныя акторы й выканальнікі з цэлае Беларусі. Было там усё: тэатральнныя паказы, старадаўныя песьні й танцы, папулярная музыка, коньнікі. Не ставала адно лёдавага катка. Тысячам гледачоў усё гэта вельмі падабалася. Кульмінацыйным мамэнтам паказу сталіся захапляльныя фэерверкі. Узрушальным-жа фіналам была працэсія з запаленымі сьвечкамі да цэнтральнае плошчы места, дзе сьвечкі былі пастаўленыя ля паднажжа статуі чалавека, што прынёс сьвятло асьветніцтва свайму роднаму краю.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

## АЦЭНА ЛЁНДАНСКАЙ СКАРЫНАЎКІ

Пра вартасную ролю Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане найлепш сьветчаць упісы ў кнігу гасьцей, у якой сярод шматлікіх выказваньняў можна прачытаць і гэткае:

*«Трэці раз я ўжо тут. Дзякуючы Скарынінцы і а. Надсону шмат скарыстаў для свайго пісьменства. Наколькі бяднейшай была-б мая кніжка 'Białoruś, Białoruś'! І цяпер выяжджаю я адсюль з новымі ведамі і ахвотай пісаць. У Скарынінцы чытаў такія рэчы, якіх нідзе не дастаць».* — Сакрат Яновіч (1987 г.).

*«Цяжка пераацаніць уклад ў беларускую культуру, зроблены стваральнікамі гэтай унікальнай бібліятэкі».* — Мянчане Анатоль і Леаніла Аксамітавы (сьнежань 1989 г.).

*«Бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане — гэта скарбніца беларускай культуры, у якой сабраныя рукапісныя, газэтныя і кніжныя матар'ялы, шмат зь якіх нельга знайсьці ў іншых месцах, у тым ліку і ў Менску. Гэта сапраўдны навуковы цэнтар Беларусаў, значэньне якога яшчэ не ацэнена».* — Праф. БДУ Анатоль Грыцкевіч (люты 1990 г.).

## ВІЛЬНЯ СЬВЯТКУЕ Ф. СКАРЫНУ

Адносна нядоўга пражыў Францішак Скарына ў «вялікім і слаўным месьце Віленскім», бадай нешта 15 год. Але-ж непамерна вялікай была распачатая ім тут справа для грамадзка-палітычнага жыцьця Ўсходняй Эўропы. У 1522 г. надрукаваў ён першую ў Вільні «Малую падарожную кніжку», а ў 1525 г. «Апостала». У сваіх выданьнях Скарына зьмяшчаў складзеныя ім самым прадмовы, пасьляслоўі, камэнтары і глосы, у якіх гучалі гуманістычныя ідэі, рэалізаваліся асьветніцкія мэты.

Дзейнасьць Скарыны як перакладчыка, рэдактара і друкара практычна спалучалася зь вялікай лінгвістычнай працай, накіраванай на дэмакратызацыю кніжна-славянскай мовы пры дапамозе роднай яму беларускай гаворкі. Ён імкнуўся выпрацаваць новыя артаграфічныя нормы, акрэсьліць статус роднага слова як сродка асьветы і грамадзкага прагрэсу.

Афіцыйная Скарыніяна ў Літве, апрача ранейшых грамадзкіх ініцыятываў, распачалася 2-га лістапада рэспубліканскай навуковай канфэрэнцыяй Віленскага ўнівэрсытэту, прысьвечанай ушанаваньню 500-годзьдзя пачынальніка ўходнеславянскага кнігадрукаваньня Францішка Скарыны. Канфэрэнцыя працягвалася два дні.

У першы дзень адбылося пленарнае пасяджэньне ў аўлі ўнівэрсытэту. Напачатку рэктар Віленскага ўнівэрсытэту акадэмік Енас Кубіліюс адзначыў нязвычайна вялікае значэньне дзейнасьці Ф. Скарыны для Вялікага Княства Літоўскага і для ўсёй Усходняй Эўропы. Пасьля было яшчэ шэсьць выступленьняў, у тым ліку Л. Уладзіміраваса, Л. Судавічэнэ зь Вільні, А. Булыкі зь Менску.

На другі дзень адбываліся пасяджэньні ў дзьвюх сэкцыях: першая — мова Скарыны, другая — Скарына ў кантэксьце гісторыі, філязофіі і культуры. Тут выступілі такія знаныя беларускія дасьледчыкі як Аляксей Каўка і Анатоль Грыцкевіч, а таксама шмат другіх навукоўцаў зь Беларусі, Літвы, Польшчы, Расеі. Усяго было прачытана 37 дакладаў. На пасяджэньнях скрозь гучэла беларуская мова.

Варта адзначыць дужа добрую арганізацыю канфэрэнцыі, за што належыцца падзяка загадчыцы катэдры славістыкі праф. Л. Судавічэнэ.

Скарынаўскія сьвяткаваньні ў Вільні прадоўжыліся 17-га лістапада. У гэты дзень у Віленскай Архікатэдры ўпяршыню прагучэла беларуская мова. Біскуп Беларусі Тадэвуш Кандрусевіч і а. Уладзіслаў Чарняўскі зь Вішнева канцэлебравалі сьвятую Імшу перад галоўным аўтаром Архікатэдры. На хорах пяялі студэнты Менскага ўнівэрсытэту, якія выканалі шэраг малітваў на беларускай мове і закончылі малітвай «Магутны Божа» на словы Натальлі Арсеньневай, музыка Міколы Равенскага.

Літоўскае вышэйшае духавенства з нагоды юбілею Скарыны, як вынятак, дазволіла ў Архікатэдры багаслужбу на беларускай мове, бо тут звыкла моляцца толькі па-літоўску. Гэта было ўшанаваньне імя Скарыны і выяўленьне дабразычлівасьці да Беларусаў. Яшчэ жыве братэрства народаў Вялікага Княства Літоўскага.

А 13-й гадзіне на доме № 18 вуліцы Вялікай, там, дзе калісь знаходзілася друкарня Францішка Скарыны (у доме бурмістра Якуба Бабіча), была ўрачыста адкрыта новая памятная дошка з барэльефам першадрукара. Дошку адкрыў міністар культуры й асьветы Літвы Д. Куоліс, які ў сваёй прамове адзначыў выдатную ролю Скарыны ў галіне асьветы й культуры Вялікага Княства Літоўскага і ўсяе Эўропы. Затым выступілі: дырэктар дэпартамэнту нацыянальнасьцяў ураду Літвы Галіна Кабэцкайце, намесьнік старшыні Вярхоўнай Рады Беларусі Станіслаў Шушкевіч ды ад віленскіх Беларусаў Лявон Луцкевіч. Адкрыцьцё дошкі завяршылася адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

А 15-й гадзіне ўрачыстае сьвяткаваньне пачалося ў Палацы мастакоў на пляцы Даўканта. Яго вяла на літоўскай і беларускай мовах вядомая перакладчыца Альма Лапінскене, выступілі літоўскі пісьменьнік Аўген Матузявічус, беларускі вучоны Адам Мальдзіс, гісторык Міхась Ткачоў і віцэпрэм'ер Літвы Рамуальд Озалас. Музычную частку вечара склалі выступленьні літоўскага ансамбля старажытнай музыкі і танцаў «Банкето музыкале» і хору студэнтаў Менскага ўнівэрсытэту, які адсьпяваў шэраг песень рознага жанру, тую-ж малітву «Магутны Божа» і завяршыў студэнцкім гімнам «Гаўдэамус».

Скарыніяна ў Вільні шырака адлюстравалася ў пэрыядычным друку, радыё й тэлебачаньні Літвы.

**Сьцяпан Дуж-Душэўскі**

*Ад Рэдакцыі:* Мы дасталі таксама карэспандэнцыю на тую самую тэму ад сп. Вялянтына Стэха. Зь яе, апрача вышэй пададзеных фактаў, даведваемся, што на заканчэньне багаслужбы ў Архікатэдры ад імя Беларусаў Літвы словы падзякі сказаў сп. Аляксей Анішчык. Біскуп Кандрусевіч даў інтэрв'ю беларускай тэлепраграме «Запрашае 'Сябрына'». На скарынаўскай памятнай дошцы надпіс зроблены па-літоўску й па-беларуску. У часе юбілейнага вечару ў Палацы мастакоў была разгорнута выстава працаў беларускіх майстроў пэндзля і разца, працаваў кніжны кіёск, прадаваліся выпушчаныя да юбілею Літоўскім фондам культуры значкі й памяткавыя мэдалі. Газэты «Эхо Литвы» і «Kurier Wileński» зьмясьцілі аб гэтым інфармацыю, ілюстраваную фотаздымкамі.

**Зянон Пазьняк**

## АДКАЗ А. САЛЖАНІЦЫНУ

***Ад Рэдакцыі:*** *У папярэднім нумары «Беларуса» было зьмешчанае інтэрв'ю зь Зянонам Пазьняком, старшынём Беларускага Народнага Фронту і лідэрам Дэмакратычнае апазыцыі ў Вярхоўным Савеце БССР. Дзеля нястачы месца зь інтэрв'ю быў выпушчаны адказ сп. Пазьняка на пытаньне: «Як Вы ставіцеся да артыкулу А. Салжаніцына 'Як абладзіць Расею'?». Ніжэй зьмяшчаем адказ З. Пазьняка на гэтае пытаньне.*

Мне іншы раз цікава назіраць увесь гэты савецкі палітычны тэатр маразму. Вяшчаюць экстрасэнсы, калдуны, варожкі, астролягі, пісьменьнікі, іншаплянэцяне, індыйскія старцы на санскрыце (або ад іхнага імя) і ўсе аб Расеі; плянэты прадказваюць ейную вечнасьць, непадзельнасьць і, натуральна, пагібель рэспублікам, што імкнуцца да незалежнасьці. І трэба-ж, Беларусь прыняла Дэклярацыю аб сувэрэнітэце — добра, але ня ў гэтым сузор'і, не на дабро і г.д., гэткая распуціншчына. Рэанімуюцца замухрэлыя імпэрскія ідэі і неразумныя, яшчэ пры жыцьці забытыя «аўтарытэты». Усё гэта ўжо было на пачатку стагодзьдзя ў часе развалу старое расейскае імпэрыі, і ўсё гэта вяртаецца цяпер, як кашмар, у часе распаду імпэрыі камуністычнае. Артыкул А. Салжаніцына я стаўлю ў адзін шэраг з гэтымі зьявамі.

І зусім не таму, што яго зьяўленьне дакладна супадае з дамаганьнем надзвычайных паўнамоцтваў для М. Гарбачова і аўтамабільнай аварыяй Б. Ельцына (тут плянэты ні пры чым). І не таму, што аўтар гэтага артыкулу выявіў слабую веду гісторыі Расеі і неазнаёмленасьць з гісторыяй Беларусі. Салжаніцын падняў з навуковага нябыцьця стары імпэрскі хлам, гістарычна неабгрунтаваную й абразьлівую для Беларусаў і Ўкраінцаў тэзу аб адзінай і непадзельнай Расеі, адмаўляючы Беларусам і Ўкраінцам у дзяржаўнай незалежнасьці.

Дачыненьне да Ўкраінцаў і Беларусаў, выказанае Салжаніцынам, супадае з пазыцыяй расейскіх чарнасоценцаў пачатку стагодзьдзя і афіцыёзнай царскай палітыкай, супраць якое змагалася тады ўся дэмакратычная Расея.

Царызм і чарнасоценцы дзялілі ўсё жыхарства імпэрыі на дзьве катэгорыі — Расейцы й іншародцы. Сярод «Расейцаў» выдзяляліся «истинно-русские» ці «великороссы» і проста «русские», куды залічалі Беларусаў і «малороссов», г.зн. Украінцаў. На аснове гэтых пагляду, якія выплывалі зь імпэрскай асыміляцыйнай палітыкі Расеі, Беларусаў і «Маларосаў» не называлі асобнымі народамі, ня лічылі нацыямі. Дзеля гэтага супраць іх царызм праводзіў асаблівыя дзеяньні — забараняліся беларуская і ўкраінская мовы, нацыянальныя школы, тэатр, вуніяцкая рэлігія, разбуралася нацыянальная архітэктура і сьвятыні, нават назоў «Беларусь» было забаронена ўжываць спэцыяльным указам расейскага сэнату. У дачыненьні да «брацкіх» народаў царызм праводзіў самую жорсткую і подлую палітыку этнацыду, культурнага здушаваньня і русыфікацыі. Тым-жа самым часам «іншародцы», паколькі яны прызнаваліся за не-Расейцаў, мелі свае нацыянальныя школы (Татары, Грузіны, Армяне, Гэбрэі і г.д. мелі іх тысячы), нацыянальныя тэатры, карысталіся сваімі сьвятынямі і рэлігіяй на сваёй мове і г.д. Дык вось у чым закавыка — ніхто гэтак не абяскровіў беларускую і ўкраінскую культуру, ніхто гэтак не апаганіў яе і не разбурыў, ніхто гэтак ганебна і жорстка ня зьдзекаваўся, як «брацкі» расейскі чыноўнік і «брацкі» расейскі царызм.

Дарэчы, вытлумачу спадару Салжаніцыну, чаму праводзілася такая палітыка. Царызм больш як сьмерці баяўся аднаўленьня Вялікага Княства Літоўскага, у аснове якога, як ведама ўсім, хто ведае гісторыю, быў беларускі народ, беларуская культура і беларуская мова. Вялікае Княства, якое заключыла ў XVI ст. саюз с Польшчай, было магутнейшай дзяржавай на ўсходзе Эўропы і пакуль яно існавала, расейская агрэсія мела межы. Разбурэньне Вялікага Княства Літоўскага сталася гістарычным сэнсам стагодзьдзяў расейскае палітыкі. Яна ажыцьцяўлялася ў канцы XVIII ст., калі тры імпэрыі разарвалі на часткі народы ВКЛ. Вось тады ў складзе Расеі і настала для Беларусаў чорная ноч.

І цяпер пісьменьнік А. Салжаніцын лятуціць аб новай Расеі зь інкарпарацыяй Беларусаў і Ўкраінцаў бяз узбунтаваных на ўскраінах «іншародцаў». Як быццам-бы ня ясна, які варыянт імпэрыі атрымаецца з гэтай даўно паха-

*(Працяг на 6-й б.)*

## *СКАРЫНІЯНА*

**Інфарматыўную нататку пра Ф. Скарыну** зьмясьціла лёнданская каталіцкая публікацыя The Tablet (6.X.90) у сувязі зь сёлетнім 500-годзьдзем ад нараджэньня «пiянера перакладу Біблії ў мову народу, якая цяпер агульна разглядаецца як раньняя беларуская».

**Пра скарынаўскі рубель (манэту)** падала амэрыканская газэта Coin World (7.XI.90). Рубель (дыямэтрам 31 міліметар і вагою 12,5 грама) выпушчаны ленінградскай манэтняй у колькасьці тры мільёны штук. Газэта зьмясьціла артыкул пра Ф. Скарыну др. Валерыя Хоршэва з Масквы, ілюстраваны скарынаўскім рублём з абодвух бакоў.

# ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ БЕЛАРУСІ

*«Загінулі за волю Бацькаўшчыны»*

## ТАРОНТА, КАНАДА

Сёлета сьвяткавалі дзень Гэрояў Беларусі раней як заўсёды — 18-га лістапада. А гэта таму, што Згуртаваньне Беларусаў Канады запрасіла на сьвята нашага паэта й барда з Бацькаўшчыны Сяржука Сокалава-Воюша. Ён ласкава запросіны прыняў, але не атрымаў патрэбных на прыезд у Канаду і зварот у ЗША дакумэнтаў...

Архірэйскую багаслужбу адправіў Першаярарх БАПЦ Архіяпіскап Мікалай. Царква й прытвор былі перапоўненыя, апрача таго нямала было людзей і ў залі. Уладыка Мікалай служыў выключна па-беларуску. Хор-жа, апрача «Война наш», «Магутны Божа» й «Табе, Госпадзе», пяяў па-царкоўнаславянску. А шкада... Паніхіда была болей зьбеларушчына. Так прыемна было слухаць чытаны псаломшчыкам М. Ганьком псалом 90: «Ты, што жывеш пад апекаю Ўсявышняга і ў цені Ўсемагутнага прабываеш, скажаш Госпаду: 'Ты маё прыстанішча, мая абарона, Бог мой і на Цябе спадзяюся'».

Усё ясна й зразумела і так прыгожа! Людзі зьехаліся й здалёк на сьвяткаваньне дня Гэрояў Беларусі. У часе паніхіды за супакой душ усіх загінуўшых беларускіх патрыётаў сьцягі трымалі найдалейшыя госьці, бо аж з Садбуры — старшыня Садбурскага адзьдзелу ЗБК сп. Мікола Буцько і скарбнік сп. Кастусь Каранеўскі. Як сымбаль вечнага сьвятла-жыцьця, вернікі трымалі ў руках запаленыя сьвечкі. Напевы «Са сьвятымі супакой, Хрысьце, душы заснуўшых слуг Тваіх, дзе няма ні болю, ні суму, ні плачу, але жыцьцё бясконцае» і «Вечная памяць» долу хілілі сьцягі, а ўвысь узьнімалі нашыя пачуцьці й малітвы. Наканец малітва «Магутны Божа», набожна й патрыятычна пяяная ўсімі вернікамі, закончыла больш як двухгадзінную багаслужбу.

Усе высыпалі на залю. І толькі тут пабачыла, які вялікі працэнт прысутных быў мне мала або й зусім незнаёмы — маладыя з зусім малымі дзяцьмі. Гэта пераважна Беластачкане, адна маладая прыгожая дзяўчына з Магілёва. Прыпомніліся словы сп. Алега Латышонка аб тым, што будучыня беларускай эміграцыі належыць да беластачан. Дайжа Божа, каб гэтыя двухгадовыя дзеці, што цяпер бегалі па залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру, сталіся ў будучыні, як мы сяньня, гаспадарамі яго. Дый абед рыхтавалі нам у кухні, пад кіраўніцтвам сп-ні Марыі Ганько, нядаўна прыбылыя стройныя маладзіцы зь Беласточчыны.

Але ня толькі зь Беласточчыны былі тут людзі мала або й зусім незнаёмыя, дый з Канады з розных месцаў пазьяжджаліся: з Садбуры, Пэры Саўнд-Слуцку, Лёндану, Гамільтану, Ашавы, Рэксдэйлу, ваколіц Алістану, Бэры й іншых. За адным сталом, як паясьніла сп-ня Элеанора Пітушка, былі ўсе з царквы Еўфрасіньні Полацкай. Былі такія, якія адбіліся ад ЗБК й БАПЦ даўно, недзе ў 50-х і 60-х гадох, а цяпер ізноў да нас завіталі. Радасна было зь імі ўсімі вітацца, знаёміцца й гутарыць.

Да даўгога, застаўленага рознымі беларускімі стравамі стала падыйшоў Уладыка Мікалай і малітвай благаславіў набытак Божы.

Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. М. Ганько просіць усіх устаць і адчыняе ўрачысты сход. Усе пяюць жалобны гімн «Сьпі пад курганам гэрояў, сьпі працаўнік і змагар, несены верна табою нізка сьхіліўся штандар...» Сп. Кастусь Акула ўрачыста чытае сымбалічную лісту Гэрояў Беларусі. За кожнаю абвешчанай групай змагароў народ адказвае: «Загінулі за волю Бацькаўшчыны».

Даклад, у якім вялася гутарка пра векавое змаганьне беларускага народу за сваю незалежнасьць ды падкрэсьлівалася, што сяньня мы аддаём пашану памяці ня толькі паўстанцам Кастуся Каліноўскага, случчаком, але й усім слаўным продкам нашае зямлі — нашым Дзядом, нашым мучанікам Курапатаў і Чарнобыля, — прачытаў сп. М. Ганько.

Прадаўжэньнем думкі й сэнтымэнту рэфэрату быў дэклямаваны др. Раісай Жук-Грышкевіч верш Ларысы Геніюш «Дзяды» пра «сівых продкаў нашае зямлі»:

«...А калі князь агнём раськінуў віці,
каб ісьці дружна Краю бараніць, —
каўшы кідалі зь мёдам залацістым,
каваць зялеза ды смалу паліць.

Пад горды сьцяг зьбіраліся дружыны,
грудзямі-мурам ворага спаткаць,
нашчадкам імя слаўнае пакінуць,
ды родных пушчаў недругу ня даць».

З магнітафоннай істужкі азвалася мэлядэклямацыя барда Сяржука Сокалава-Воюша, ягоныя песьні: «Гімн 'ворагаў народу'», «Прыстанкі» і «Фронт» ды песьні Данчыка й Барткевіча: «Шумныя бярозы» й «Зваяваным».

На заканчэньне ў вадказ «сівым продкам нашае зямлі» ўсе мы разам абяцалі:

«Мы выйдзем шчыльнымі радамі
на вольны родны свой прастор,
хай воля вечна будзе з намі,
а гвалту мы дамо адпор!»

Дай-жа нам Божа!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

Угодкі Слуцкага Чыну былі адзначаныя ў нядзелю 25-га лістапада. Сьвяткаваньне пачалося багаслужбай за тых, што аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына, за ахвяраў чарнобыльскай катастрофы і за сяброў Беларускага Аб'яднаньня ў Зах. Аўстраліі, якую адслужыў сьвятар Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы а. Сытнік, вялікі прыяцель Беларусаў.

Пасьля адыграньня беларускага нацыянальнага і аўстралійскага гімнаў старшыня БАЎЗА Міхась Раецкі маладошы адчыніў акадэмію, падзякаваў а. Анатолю. Былі прачытаныя прывітаньні ад Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі і Беларускага Аб'яднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі. У сваім дакладзе на тэму дня сп. Р. М. падкрэсьліў, што Слуцкае паўстаньне было на самой рэчы абаронай вайной Беларускае Народнае Рэспублікі супраць маскоўскага імпэрыялізму. Ён гаварыў таксама пра абавязкі эміграцыі перад народам і Бацькаўшчынай.

Рэфэрат па-ангельску прачытаў старшыня Аб'яднаньня.

Зь ініцыятывы ўправы БАЎЗА спня Марыя Мароз сабрала 530 даляраў на дапамогу ахвярам чарнобыльскай радыяцыі. Грошы будуць перасланыя ў Кансысторыю БАПЦ у Гайленд-Парк (ЗША).

Сьвяткаваньне закончылася агульным пачастункам.

**Р. М.**

## ГАЙЛЕНД-ПАРК, Н.-ДЖ.

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў урачыста адзначыла 70-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня. У суботу 1-га сьнежня дэлегацыя вэтэранаў злажыла вянок пры помніку Гэроям Беларусі і ўдэкаравала магілы. У нядзелю ў царкве Жыровіцкае Маці Божае ў Гайленд-Парку пасьля сьв. Літургіі а. Васіль Андраюк адслужыў у прысутнасьці сьцяжной варты паніхіду па ўсіх, хто выкладаў сваё паклаў на аўтар Бацькаўшчыны, сказаў прыгожую пропаведзь. У падцаркоўнай залі адбылася акадэмія, якую адчыніў старшыня ЗБАВ сп. Сяргей Гутырчык. З дакладамі на тэму дня выступілі сп. Васіль Стома і др. Янка Запруднік.

Сп. Стома гаварыў пра патрыятызм як рухавік гэраічнага чыну случчакоў. Др. Запруднік насьветліў эканамічныя прычыны Слуцкага паўстаньня і зьвярнуў увагу на падабенствы мовы рэзалюцыі Рады Случчыны 1920 году ды некаторых цяперашніх заяваў Беларускага Народнага Фронту.

Сп. сп. Пётра Звонны і Пётра Скепка выканалі пад акардэон колькі ваяцкіх і патрыятычных песьняў. Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

## ЛЁНДАН, АНГЕЛЬШЧЫНА

Сьвяткаваньне, арганізаванае галоўнай управай ЗБВБ, адбылося ў нядзелю 25-га лістапада ў залі Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Сп. Янка Міхалюк, старшыня ЗБВБ, прывітаў прысутных, зачытаў надасланыя прывітаньні ды коратка прадставіў значаньне гэтак важнай 70-й гадавіны. Асабліва прыемна было вітаць гасьцей зь Беласточчыны і БССР, а між імі а. Я. Матусэвіча. Віталі таксама случчаніна сп. Хв. Дзімітрава.

З рэфэратам на тэму дня выступаў сп. А. Зданковіч, які гаварыў пра цяжкія абставіны, у якіх арганізаваўся і змагаўся Беларускі актыў случчыны. Дакладчык прывёў абшырныя цытаты з запісаў Брытанскае дыпляматычнае місіі ў Польшчы ў 1919-1920х гадох, у якіх выяўлялася варожае стаўленьне Палякаў да беларускага нацыянальнага руху, у супярэчнасьці з дэклярацыяй Пілсудзкага «за вашу і нашу вольнасьць».

Аб сучасным стане ў Беларусі гаварыў а. Алесь Надсон. Ён, быўшы на Бацькаўшчыне сёлета два разы, падаў жахлівыя факты аб хворым насельніцтве ў зоне, забруджанай чарнобыльскай радыяцыяй. Наш абавязак, сказаў а. Алесь, — памятаць пра суродзічаў, якія патрабуюць мэдыцынскай і харчовай дапамогі, ды старацца гэткую дапамогу забясьпечыць. Сам а. А. Надсон рыхтуецца яшчэ зь дзьвюма асобамі (былымі вучнямі лёнданскай Беларускай школы Э. Волшам і Э. Міхалюком) везьці на Беларусь мэдычныя прылады й лекі. Другі Чарнобыль для Беларусаў — гэта духовы, зазначыў а. Аляксандар.

Паэтэса Вера Рыч задэклямавала свой верш, безназоўны. Быўшы сёлета на Беласточчыне ў часе беларускіх нацыянальных, культурных сустрэчаў, яна напісала гэты верш, прысьвяціўшы яго Беларускаму Адраджэньню.

Айцец Матусэвіч выказаў падзяку прамоўцам (ён разумее па-ангельску, толькі ня можа гаварыць). На працягу двух год ён ужо другі раз ў Лёндане. За два гады шмат чаго на Беларусі зьмянілася на лепшае, сказаў ён, заўважваецца духовае адраджэньне моладзі.

Сп. Я. Міхалюк падзяліўся ўражаньнямі з сустрэчы Беларусаў у Амэрыцы. Ён таксама ўручыў сяброўскія пасьветкі новым сябром ЗБВБ: с-ні І. Гурло і сп. В. Мартынчыку.

Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну ўрачыстасьць была закончана.

Сп. Я. Міхалюк зьвярнуўся да прысутных з заклікам аб дапамозе ахвярам Чарнобыльскай аварыі. У часе перакускі было сабрана 250 анг. фунтаў.

**А. Зданковіч**

## ЛІГА ЖАНЧЫН БЕЛАРУСІ

У сьнежні сёлета меўся адбыцца ўстаноўчы зьезд Лігі жанчын Беларусі. Старшыня камітэту культурнага і духоўнага адраджэньня сп-ня Людміла Пеціна ў лісьце да нас піша: «Аргкамітэт Лігі жанчын працуе ўжо амаль год. У цяжкі для Радзімы час аб'ядналіся жанчыны Беларусі, каб разам змагацца за жыцьцё сваіх дзяцей, за будучыню беларускай нацыі. Бо для нашага народу зараз стаіць пытаньне біялягічнага выжываньня. Ліга жанчын у кастрычніку гэтага году правяла ў Гомлі канфэрэнцыю 'Чатыры гады пасьля Чарнобыля', дзе падымаліся пытаньні нізкога ўзроўню аховы здароўя, адсутнасьці чыстых прадуктаў харчаваньня, неабходных лекаў і мэдыцынскай апаратуры.

«Ліга жанчын распачала вялікую працу па абароне нашых салдат-Беларусаў супраць злачынства, якое пануе ў савецкім войску. Мы выступаем за стварэньне Беларускага нацыянальнага войска, супраць ядзерных базаў на Беларусі.

«Ня меншы клопат Лігі жанчын — гэта адраджэньне духоўнага жыцьця нашага грамадзтва. Пакуль што тут зьмярцьвелая зона — вынік дзяржаўнай палітыкі татальнага атэізму. Каб адрадзіць духоўнае жыцьцё на Беларусі, патрэбны падрыхтаваныя беларускія сьвятары. Бо зараз родная мова амаль ня гучыць у нашых храмах».

## ДАВЕДНІК ПРА НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ ЗША

Амэрыканскае выдавецтва «Гейл» апублікавала даведнік «Крыніцы інфармацыі пра нацыянальнасьці Злучаных Штатаў». У даведніку — весткі пра блізу сотню нацыянальных групаў, у тым ліку й пра беларускую, пра якую ня было асобнага артыкулу ў папярэднім, першым выданьні. У артыкуле пра Беларусаў названыя сем публікацыяў, зь якіх можна даведацца больш пра Беларусь.

Даведнік інфармуе пра беларускія арганізацыі ў ЗША: Беларускі Каардынацыйны К-т у Чыкага, Беларускую Нацыянальную Раду, БАЗА, Кангрэсавы К-т, жаноцкую арганізацыю ды іншыя, а таксама пра Місію БССР пры ААН.

Упяршыню ў амэрыканскім даведніку апісваюцца грамадзкія цэнтры адпачынку: Бэлер-Менск у штаце Нью-Ёрк, Полацак у Кліўленьдзе.

У разьдзеле пра культурныя й адукацыйныя арганізацыі згаданыя: Беларускі Адукацыйны й Дапамаговы Фонд у штаце Флярыда, Беларускае Мастацкае Т-ва ў Нью-Джэрзы, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку. Названыя таксама жаноцкія ансамблі «Каліна» ў Саўт-Рывэры, «Васілёк» у Кліўленьдзе.

З выданьняў даведнік згадвае газэту «Беларус», часапісы «Беларуская Думка», «Царкоўны Сьветач», «Беларускі Сьвет» ды колькі іншых. Пададзеныя таксама весткі пра беларускую радыяпраграму ў Чыкага, беларускія фэстывалі ды кнігазборы.

**В. Зубкоўскі**

# СТО ГОД! Сп-ні ВАЛЕРЫІ БУДЗЬКА

***30-га сьнежня 1990 году споўніцца 100 год!***

Нарадзілася яна 30 сьнежня 1890 году ў Рызе ў Латвіі. Там закончыла сярэднюю школу й выйшла замуж за ведамага беларускага дзеяча Эдварда Будзьку. Ваенныя падзеі закінулі маладое сужэнства ў Пецярбург, дзе ў той час было разгорнутае беларускае арганізацыйнае жыцьцё. Эдвард, а зь ім і верная да канца ягоная спадарожніца Валерыя акунуліся ў вір беларускага жыцьця й скрозь з сабой насілі — на зборкі й беларускія спэктаклі — маленькую, першую сваю дачушку Ірку.

Эдвард Будзька быў супрацоўнікам «Нашай Нівы», адным з арганізатараў першае беларускае гімназіі ў Будславе, апякуном беларускай моладзі, што хацела вучыцца. Дзякуючы яму не адзін Беларус здабыў сярэднюю й вышэйшую асьвету. У 20-х гадох Эдвард Будзька быў выдатным беларускім каапэратарам, сябрам управы Віленскага Саюзу у Каапэратываў. Побач яго заўсёды стаяла ягоная жонка й руплівая матка трох, з мастацкім ухілам, заўсёды дзейных у беларускім жыцьці дзяцей: Ірэны, Людовікі й Часлава.

У 20-х і 30-х гадох сям'я Будзькаў жыла ў Вільні. Гасьцінная спадарыня Будзьчыха пры розных нагодах, як прыкладам у каляднціу, запрашала да сябе сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу. Помню, шмат нас бывала ў Будзькаў за даўгім бяседным сталом, каля двух дзесяткоў ці болей, а пасьля застольнае бяседы — песьні, танцы, весялосьць. Цёпла і ўтульна бывала заўсёды ў Будзькаў.

І сёньня ў Чыкага, дзе пасялілася сям'я Будзькаў — Пануцэвічаў і Беленісаў, тая самая традыцыйная гасьціннасьць, перададзеная дзецям Маткай Валерыяй.

Жадаем Вам, Паважаная Юбілярка, каб Бог меў Вас і Вашую сям'ю у Сваёй апецы!

**Раіса Жук-Грышкевіч**
**Прыяцелі сям'і Будзькаў**


*Сп-ня Валерыя Будзька*

## «КСЭРАКС БЕЛАРУСКІ»
**Новы літаратурны часапіс**

У Скарынавым месьце Полацку пачаў выходзіць часапіс «Ксэракс БЕЛАРУСКІ». Публікацыя нефармальная і неафіцыйная, бо не сказана нават калі дакладна яна выйшла і хто ейны выдавец. Першы нумар «Ксэраксу» зьмяшчае: Сяржук Сокалаў-Воюш — Раніца Рэспублікі (п'еса; тэатр абсурду); Валяньціна Аксак — вершы; Алесь Аркуш — вершы; Мясцовы час (рок-група) — тэксты песьняў; Вінцэсь Мудроў — Час камара (апавяднаньне); Лявон Баршчэўскі — вершы; Уладзімір Арлоў — «Совершенно секретно» або адзін у трох іпастасях (гістарыяграфічны нарыс пра абэцэдаршчыну).

## *СУСТРЭЧА НОВАГА ГОДУ*

***ў Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры, Н.-Дж.***

*У панядзелак 31 сьнежня, пачатак а 9-й гадз. увечары.*
*Грае аркестра Івана Альхоўскага.*
*Выступяць зоркі ансамблю «Жывіца» Валя Пархоменка й Алесь Казак.*
*Уступ — 35 дал. ад асобы.*
*Прыбытак пойдзе на закуп мэдыкамэнтаў для ахвяраў Чарнобыля.*
*Заказвайце білеты загадзя ў Жоржа Наумчыка (201 257-8431), Сяргея Рагалевіч (469-8479), Міхася Сенькі (257-3267), Грамадзкім Цэнтры (254-9694).*

## *БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАНЬНЕ Ў ПОЛЬСКІМ ДРУКУ*

Варшаўскія й беластоцкія газэты публікуюць матар'ялы, зьвязаныя з набалелай «беларускай праблемай», якая завайстрылася нядаўнымі пажарамі праваслаўных цэркваў на Беласточчыне, ды актуалізавалася дзейнасьцяй Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня, а таксама перамовамі міністраў замежных справаў Польшчы й БССР, што не далі чаканага польскім бокам вынікаў.

Газэта «Трыбуна» (25 і 26.X), у рубрыцы «Беларусы на Крэсах», зьмясьціла гутарку Барбары Стаські з Сакратам Яновічам, пісьменьнікам й палітычным дзеячом, адным з заснавальнікаў БДА. Яновіч вытлумачыў палажэньне Беларусаў на Беласточчыне, трапна зазначыўшы пры гэтым, што ў сьвятле цяперашняе эўрапейскае тэндэнцыі да шматкультурнасьці Беларусы «перарастаюць Палякоў», бо «функцыянуюць у дзьвюх мовах, у дзьвюх культурах, чым ня можа пахваліцца сярэдні Паляк». На наступны дзень «Трыбуна» зьмясьціла артыкул Б. Стаські, напісаны на аснове гутарак з жыхарамі й кіраўнікамі гораду Бельску (27 тыс. жых.), дзе Беларусы жаляцца на дыскрымінацыю іх з боку «Салідарнасьці», якая ў апошніх выбарах прыйшла да ўлады.

Газэта «Кур'ер Поранны» (30.X) зьмясьціла выступленьне ў Сойме дэпутата з Беласточчыны Кшыштофа Путры. Путра абураецца на беларускіх палітыкаў у Польшчы й БССР (без называньня прозьвішчаў) за іхныя выказваньні аб Беласточчыне як этнічна беларускай тэрыторыі ды называе «паклёпам» заявы аб дыскрымінацыі Беларусаў у Польшчы. У канцы свайго выступленьня Путра выказаў надзею на тое, што «перамовы, пачатыя польскім урадам з урадам Беларусі і Беларускім Народным Фронтам 'Адраджэньне', створаць магчымасьць усебаковага разьвіцьця добрасуседзкіх дачыненьняў».

З думкай пра гэткія дачыненьні Сакрат Яновіч зьвярнуўся у газэце «Жыце Варшавы» (5.XI) інфармацыю пра беларускі сымпозіюм у Беластоку, дзе былі прадстаўнікі БНФ і эміграцыі. Яновіч зазначае, між іншага, што «беларуская замежная палітыка павінна зыходзіць з прынцыпу непарушнасьці наяўных межаў і пашаны волі ейных партнэраў. Беларусь як дзяржава — член ААН, піша Яновіч, мусіць выкарыстаць свае міжнародныя правы, каб па магчымасьці «самастойна ўвайсьці ў Эўрапейскі Дом, які фармуецца цяпер». Перачуленасьць-жа Палякоў да нараканьняў зь беларускага боку на дыскрымінацыю Яновіч тлумачыць тым, што ў выніку глыбокіх зьменаў апошняга часу «перад вачыма Палякоў узьнікла новая дзяржава, Беларусь, якая — рэч натуральная — імкнецца да наладжаньня новых дачыненьняў з суседній Польшчай і мае ў сувязі з гэтым мноства справаў да абмеркаваньня, высьненьня і абладжаньня. Ня больш».

## ДЛЯ ПОЛЬСКІХ НАВЕДНІКАЎ БЕЛАРУСІ

Увосень сёлета ў Польшчы выйшлі з друку «Беларускія міні-разгаворы». Гэтая кніжачка, як пішуць ва ўступе аўтары, прызначаная перад усім польскім турыстам, якія выяжджаюць на кароткі час у Беларусь. У ёй — падборка пытаньняў, адказаў, слоў і фразаў неабходных, каб дамовіцца ў элемэнтарным маштабе ў звычайных сытуацыях, зьвязаных з уездам і пабыўкай у БССР. Публікацыя гэтая таксама дапамагае ў сутыкненьні зь беларускай мовай для людзей, якія ніколі яе не вывучалі.

«Разгаворы» падзеленыя на паасобныя разьдзелы: асноўныя веды пра беларускую мову; ветлівыя звароты, прывітаньні; найбольш патрэбныя звароты; разьмеркаваньне часу; колеры; вага і колькасьць; лічбы; на мяжы; транспарт (цягнік, самалёт, мораплаў, аўтобус, самаход); раскватэраваньне; рэстаран, бар, кавярня; стравы; у горадзе (таксі, аўтобус, трамвай, тралейбус, мэтро, абмен валюты, пошта, тэлефон); пакупкі; сэрвіс-абслуга; мэдыцынская дапамога; адпачынак і забава.

Некаторыя разьдзелы «Разгавораў» зьмяшчаюць яшчэ невялічкія паясьненьні, скажам: як паводзіць сябе на дарогах краіны; як карыстацца публічным транспартам, тэлефонам, колькі каштуе білет і дзе яго можна купіць?

Апрача таго можам прачытаць некалькі практычных парадаў пра асаблівасьці беларускай мовы, вымаўленьне, націск, пабудову сказу. Даюцца таксама найбольш патрэбныя сказы, па-польску і па-беларуску. Прыкладам (на мяжы): «Прашу пашпарт і таможную дэкларацыю». «Гэтага нельга ўвозіць». «Я атрымаў дазвол». «Трэба заплаціць пошліну».

Кніжачка цікавая і вартая ўвагі, хаця мае й хібы. Шмат якія словы ці нават цэлыя сказы — гэта звычайныя калькі з расейскай мовы. Скажам, беларускі «гатэль» выступае як «гасьцініца», «мыта» як «пошліна». Рэдка калі маем па некалькі беларускіх адпаведнікаў польскага слова, пераважна адзін.

Тым ня менш, гэткія недахопы ў ніякім выпадку не абніжаюць вартасьці выданьня. Магчыма, крыху на выраст, бо калі на вуліцы Менску ці Гародні запытаем: «Пакажэце мне, калі ласка, на карце гораду вуліцу — скажам, Друкарскі завулак», то наш суразмоўца можа адказаць: «Вы говорите на нормальном языке». Але гэта ўжо іншая справа.

**Юрка Ляшчынскі**

## ВЫСТАЎКА ДРУКАЎ

У гор. Лодзі ў Польшчы апублікаваны каталёг выстаўкі самвыдавецкіх і неафіцыйных друкаў. Выстаўка адбылася ў кастрычніку сёлета ў Лодзінскім унівэрсытэце. Публікацыя выйшла пад грыфам лодзінскага адзьдзелу таварыства «Помост».

У брашуры зьмешчаная даведка пра пачаткі беларускага незалежнага выдавецкага руху і пералічаня, з анатацыямі, 56 публікацыяў, што зьявіліся, пачынаючы ад 1981 году, у Польшчы й БССР.

Арганізатар выстаўкі і ўкладальнік каталёгу — Мікола Давідзюк.

## КАНЦЭРТЫ 19-Й СУСТРЭЧЫ
**На відэастужцы**

Нядзельны — 2 гадз. 30 хвілін, сыботні — 2 гадз. Цана: па 20 дал. касэта. Два даляры з кожнай касэты пойдзе на Чарнобыльскі фонд.

Michael Kolyadko
14080 Indian Creek Dr.
Middleburg Hts, OH 44130

## ВОЛЬГА КОРБУТ У ЗША

Ньюджэрзыйская газэта The Home News (14.XI) зьмясьціла на першай старонцы фатаздымак Вольгі Корбут з 11-гадовым сынам Рычардам, вучнем школы ў Іст-Брансьвіку, і артыкул пра «маці гімнастыкі», чэмпіёнку Алімпіяды 1972 году. Вольга Корбут і сын Рычард затрымаліся ў сям'і Гэнрыка й Наташы Грынбэргаў, якія жывуць у Іст-Брансьвіку. Грынбэргі іміґравалі ў 1980 годзе з Савецкага Саюзу. Рычард наведвае пачатковую школу імя Фроста.

Вольга Корбут тымчасам жыве ў Беларусі, піша газэта, займаючыся вышкольваньнем гімнастаў і справаю дапамогі дзецям, ахвярам чарнобыльскае радыяцыі, але спадзяецца дастаць працу трэнера ў гімнастычнай школе (Flyers' Gymnastics Academy) ў Гамантане.

## *ПРА СУСТРЭЧУ Ў «ПОЛАЦКУ»*

Газэта «Літаратура і Мастацтва» (9.XI) зьмясьціла вялікі рэпартаж Леаніда Казыры, намесьніка старшыні Згуртаваньня «Бацькаўшчына» і ўдзельніка XIX-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, пра кліўлендзкае міжнароднае спатканьне Беларусаў. У рэпартажы, пад заг. «Паяднаныя любоўю», дадзенае даволі шырокае апісаньне месца й атмасфэры сустрэчы, зьмешчаныя поўныя тэксты прывітаньня ад Прэзыдэнта Буша і рэзалюцыі, прынятай удзельнікамі, выказваньні гасьцей сустрэчы, у тым ліку Архіепіскапа БАПЦ Мікалая.

Артыкулы пра Сустрэчу зьмясьцілі таксама «Настаўніцкая газета» (21.XI; аўтар: Сьвятлана Белая) і «Навіны Беларускай Акадэміі» (23.XI; аўтар: Марыя Міцкевіч).

## «ПАХОДНЯ» ПРАПАНУЕ!

Беларускае Мастацка-Вытворчае Задзіночаньне «Паходня» прапануе вырабы зь беларускай нацыянальнай сымболікай:

АДЗНАЧКА зь беларускай нацыянальнай сымболікай. Тэхналегія: «срэбра пад шклом». Памеры 23×16 мм. Малюнак: бел-чырвона-белы сьцяг, на ім — срэбраная Пагоня. Кошт: 1 шт. — 0,30 даляра, 100 шт. — 25 дал., 1000 шт. — 200 дал.

Адрас БМВЗ «Паходня»: СССР 220040 Менск — 40, а/с 276 БМВЗ «Паходня»

## АДКАЗ А. САЛЖАНІЦЫНУ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

ванай ідэі, дзе нам, Беларусам, без падтрыманьня з боку «іншародцаў» будзе нарыхтаваная поўная народная, нацыянальная, духовая ды й фізычная сьмерць.

Так-жа як манархічныя гісторыкі й чарнасоценцы, пісьменьнік лічыць Украінцаў, Беларусаў і Расейцаў (маскоўцаў) Расейцамі. На гэтым фактычна і ўгрунтаваная канцэпцыя. Як дрэнна ўсё-ж ня ведаць гісторыі і ўсяго таго, што трэба ведаць, бяручыся за разважаньні аб будучыні трох зусім розных народаў, блізкіх па мове, але якія належаць да розных расаў, розных культураў, розных сыстэмаў вартасьцяў, розных гістарычных лёсаў.

Прыкра таксама, што пісьменьнік не стрымваецца ад абразьлівых выразаў, асабліва ў адрас Украінцаў («суетно-социалистическая Рада», «карпатороссы», «при австрийской подтравке» быў «выращен искаженный украинский ненародный язык», «малые народы» і ўся «дробность» і г.д.).

«Крымскім Татарам, зразумела, — піша аўтар, — трэба адкрыць поўны зварот у Крым. Але пры шчыльнасьці жыхарства ў 21-м стагодзьдзі Крым можа зьмясьціць 8-10 мільёнаў жыхароў — і статысячны татарскі народ ня можа сабе дамагацца валоданьня ім». Лёгіка, скажам, вельмі паказальная: выходзіць, калі ў 21-м ст. на тэрыторыі Крымскіх Татараў можа зьмясьціцца 8-10 мільёнаў чалавек, то няма чаго Татарам, ахвярам найсуровейшага і бяспрыкладнага камуністычнага генацыду, дамагацца звароту свае забранае, украдзенае радзімы.

Калі-б гэта напісаў партыйны функцыянер. Але, на жаль, гэтак піша папулярны пісьменьнік.

Поўна па тэксьце гэткіх дзіўных, адкрыта рэакцыйных і павярхоўных выказваньняў. Некаторыя дзіву даюцца, што гэта напісаў А. Салжаніцын, аб якім склалася думка, як аб пасьлядоўным дэмакраце, змагары з камуністычнай тыраніяй і таталітарызмам. На жаль, тыя, што прайшлі праз Гулаг, па-рознаму і кожны па-свойму ўсьведамілі глыбіню сьмяротнае небясьпекі для чалавецтва імпэрыялістычнага камунізму. Адныя перад сьмерцяй у жаху крычэлі «да здравствует Сталин», другія — пракляцьці, трэйція, як А. Салжаніцын, уцалеўшы, раскрылі панараму, анатомію злачыннай ідэялёгіі і ўлады, ейных дзеяньняў, але, відаць, гэтак і не зразумелі існасьці гэтага сусьветнага зла, ягоных традыцыяў, апоры на сацыяльныя структуры і гістарычныя забабоны. Варта іроніі тое, што Салжаніцын, выступаючы супраць камуністычнае імпэрыі зла, сам выявіўся вязьнем імпэрскае імпэрскае сьведамасьці. Дзеля гэтага ягоная пазыцыя ў гэтым артыкуле да няпрыстойнасьці хвальшывая і няслушная.

Зрэшты ня тлькі ў яго. У гутарцы з расейскімі радыкаламі, інтэлектуаламі, лібэраламі, дэмакратамі і да т.п. можна заўсёды наслухацца вельмі разумных і надзвычай дэмакратычных выказваньняў. Тады я заўсёды стараюся даведацца іхную думку аб будучым дэмакратычным і геапалітычным уладжаньні Расеі, Беларусі, Савецкага Саюзу і ўсяго, што з гэтым зьвязана. І вось тут пачынаюцца дзіўныя рэчы. Ну як у артыкуле Салжаніцына, а то й яшчэ горш. Мяне заўсёды насьцярожвала гэтая выразная перавага імпэрскае сьведамасьці над нацыянальнай у галовах расейскае дэмакратычнае інтэлігенцыі. Прызнаньне беззасьцярожнага (а не як у Салжаніцына) права на нацыянальнае самавызначэньне — гэта першы запавет дэмакратызму. Але дэмакратаў сярод расейскіх «дэмакратаў» у Расеі я сустракаў рэдка, а сярод пісьменьнікаў ня бачу ні аднаго.

Мне як чалавеку іншай культуры шмат што чужое, няпрыймальнае і няпрыемнае ў творчасьці расейскіх пісьменьнікаў і паэтаў, абагаўляных у Расеі, пачынаючы ад Дзяржавіна і да сёньняшніх нізьвяргальнікаў. Гэта перш за ўсё маральная раздвоенасьць асобы пісьменьнікаў і камплекс нейкага ганарлівага азіяцкага шавінізму й непавагі да іншых народаў. Уся расейская літаратура прасякнутая гэтай хваробай. Аднак, я прыймаю гэтую літаратуру такой, якой яна ёсьць, як аб'ектыўную рэальнасьць са спакойнай пашанай, назіраючы, ня ўмешваючыся й не асуджаючы. Але толькі да тае пары, пакуль, па-першае, яе нам не пачынаюць навязваць і, па-другое, пакуль гэтыя пісьменьнікі не пачынаюць займацца палітыкай. Бо, як правіла, выходзіць штосьці бязглуздае. Рамантычная бэлетрыстыка з прыблізнымі ўяўленьнямі аб зьявах і палітыка, за якой лёсы людзей і народаў — заняткі несумяшчальныя і ня трэба іх блытаць.

## РАСЕЙСКАЕ ПРАВАСЛАЎЕ І «ТРЫАДЗІНСТВА» ІМПЭРЫІ

У Расеі ў г. Загорску заснавае Праваслаўнае брацтва Прападобнага Сергія Радонежскага. «Галоўнае заданьне Брацтва, — чытаем у статуце гэтай арганізацыі, — нацыянальнае адраджэньне расейскага, а таксама сваяцкіх яму ўкраінскага й беларускага народаў».

У 11-м артыкуле статуту Брацтва кажа, што ягоная дзейнасьць будзе скіравана на «аб'яднаньне ўсіх патрыятычных сілаў, занепакоеных станам і доляй трыадзінага (расейскага, украінскага й беларускага) народу, на прызнаньне нацыянальных ідэалаў неадлучнай часткай грамадзкага быцьця». У ўступе да статуту сказана, што Брацтва будзе «змагацца за чысьціню расейскае мовы», але няведама ці яно пакідае такое самае права Беларусам і Украінцам змагацца за чысьціню сваіх моваў. Прынамся статут Брацтва аб гэтым маўчыць.

### БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДЫ Ў ЧЫКАГА

У чыкагаўскім Музэі Навукі й Індустрыі 49-ты раз ужо будуць паказаныя сёлета калядныя традыцыі 40 народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у Чыкага. Як і папярэднімі гадамі, будуць паказаныя і беларускія Каляды. Паказ пры беларускай ялінцы адбудзецца ў нядзелю 23 сьнежня а 2-й гадзіне папаўдні. «'Каляды ў Беларусі', — паведамляе прэсавы камунікат Музэю, — дармовы тэатральны паказ, падтрыхтаваны на аснове калярытных беларускіх сьвяточных звычаяў... Сп-ня Вера Рамук — старшыня сёлетняе праграмы й ялінкі. Тэатральны паказ, арганізаваны Беларускім Каардынацыйным Камітэтам Чыкага, дасьць магчымасьць пабачыць аўтэнтычныя Каляды Беларусі і прыгожыя калядныя традыцыі».

### МЕНСКІЯ КІРМАШЫ Ў 1991 Г.

Як падаў амэрыканскі камэрцыйны часапіс Block (кастр.-ліст. 1990), які спэцыялізуецца ў гандлі з Усх. Эўропай, у Менску ў наступным годзе адбудуцца два міжнародныя прамыслова-гандлёвыя кірмашы: 12-19 верасьня (спэктраскапія) і 17-24 кастрычніка (драўляная мэбля).

***Падпішэцеся на газэту «Беларус» для суродзіча на Бацькаўшчыне.***

## BYELORUSSIAN (Bielarusian) REVIEW

Выйшаў з друку чарговы, прыгожа аформлены нумар (vol.2, № 3) англамоўнага бюлетэню «Беларускі Агляд». У нумары: Слова ад Рэдакцыі; Арт Турэвіч — Дэклярацыя аб сувэрэннасьці Беларусі: ейнае значэньне; Народны дэпутат Генадзь Грушавы выказваецца пра ўрад Беларусі (інтэрв'ю); важнейшыя падзеі беларускага палітычнага й культурнага жыцьця; М. Баяроўскі — Падарожжа зь Вялікабрытаніі ў Беларусь з мэдычнымі прыпасамі; перадрук адозвы БНФ з газэты «Свабода» ў справе прызыўнікоў; Г. Грушавы апісвае дзейнасьць камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля»; у новай рубрыцы «Фрагмэнты зь беларускай гісторыі» даведкі пра Францішка Скарыну; выпісы зь бягучага друку; рэпартаж пра 19-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі з тэкстамі прывітаньня ад Прэзыдэнта Буша, прамовы кангрэсмэнкі Мэры Роўз Оўкэр; зварот камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля»; агляд скарынаўскіх сьвяткаваньняў (паводля газэты «Беларус»); лісты ў рэдакцыю.

Трэба з задаваленьнем адзначыць, што «BR» стаўся паважнай і вельмі патрэбнай публікацыяй. Пра гэта сьветчаць ня толькі водгукі чытачоў, беларускіх і небеларускіх, але й аналіз падаваных у бюлетэні матар'ялаў. "BR" заслугоўвае на ўсякае падтрыманьне, фінансавае й маральнае, а ягонаму галоўнаму рэдактару сп. Джоў Прайсу, памочніку рэдактара Элізабэце Обэрша і тэхнічнаму рэдактару сп. Юрку Станкевічу належыцца шчырая падзяка за іхную самаахвярную працу.

Падпіска (12 дал. на год) на гэтае выданьне можа быць найлепшым падарункам нашым англамоўным дзецям, сваяком ды іншанацыянальным прыяцелям. Пісаць на адрас: BYELORUSSIAN REVIEW, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505, U.S.A.

### УГОДКІ СЬМЕРЦІ ДР. СТ. СТАНКЕВІЧА

Беларусы Нью-Ёрку й ваколіцаў адзначылі 10-я ўгодкі сьмерці заслужанага беларускага дзеяча й навуковага працаўніка др. Станіслава Станкевіча. У Фундацыі імя П. Крэчэўскага 1-га сьнежня адбыўся вечар, прысьвечаны памяці нябожчыка. Успамінамі пра яго падзяліліся сп. Антон Шукелайць, які расказаў пра няведамыя або малаведамыя факты з раньняга жыцьця й дзейнасьці С. Станкевіча, а др. Янка Запруднік гаварыў пра ягоную навуковую, выдавецкую й публіцыстычную спадчыну, якую трэба было-б сабраць і выдаць.

Др. Запруднік падкрэсьліў беспадстаўнасьць абвінавачаньняў С. Станкевіча ў крымінальных злачынствах ў часе нямецкае акупацыі, якіх Станкевіч ня ў стане быў зрабіць, бо быў цывільным адміністратарам, кампэтэнцыі якога былі вельмі абмежаныя. Тым ня менш, савецкая прапаганда не перастае паўтараць шаблённага паклёпу супраць С. Станкевіча, ускладаючы на яго адказнасьць за сотні жыцьцяў. Гэтак, прыкладам, Барыс Сачанка ў выдадзенай сёлета кнізе «Сьніцца сны аб Беларусі» ізноў назваў Ст. Станкевіча «прафэсійным шпіёнам і забойцам», які «падпісваў сьмяротныя прысуды». Але ніводнага дакумэнтальнага пацьверджаньня Сачанка не падаў — так, як ён гэта зрабіў, прыкладам, у дачыненьні да сталінскага калябаранта Лукаша Бэнды. А не падаў таму, што гэткіх дакумэнтаў няма і ня было.

### «ГОЛАС ЧАСУ» № 6/9, XI-XII/90

У нумары: А. Жук-Борскі — Праўда, хлусьня, прапаганда; Ю. Весялкоўскі — Галасы аб Грунвальдзкай бітве; Ю. Весялкоўскі — Хрысьціянства ад Галілеі да Беларусі; Каросьцік Іосіф — Мой родны кут (верш); Іван Ласкоў — Чым праславімся (заканчэньне); Ніна Загарэўская — Родная мова (верш); Ю. Весялкоўскі — Вайна і Лютаўская рэвалюцыя; Зварот БНФ да беларускай эміграцыі; Аляксандар Алехнік — Адкрыты ліст да прэм'ера і ўсіх сяброў урады і парляманту Беларусі; Ю. Сьвяржынскі — З улікам, ці разьлікам?; Праграма сустрэчы Беларусаў Аўстраліі; Уцёкі зь нямецкай арміі; хроніка, лісты ў рэдакцыю, выпісы з друку.

Публікацыя выходзіць у Лёндане: "Voice of Time", 74 Netheravon Rd., London W4 2NB, England.

### *ДА ВЫПУСКНІКОЎ НАВАГРАДЗКАЙ ГІМНАЗІІ*

Аўтар гэтага звароту, апрацоўваючы манаграфію аб Навагрдзкай Беларускай Гімназіі, вельмі просіць былых вучняў і настаўнікаў гэтай школы, прыслаць яму свае ўспаміны, а таксама фатаграфіі і ўсё іншае, зьвязанае зь гімназіяй, каб папоўніць дакумэнтальную аснову публікацыі. Важна мець адказы на такія, прыкладам, пытаньні: Якая была школьная форма, шапка, якога колеру? Як называлася школьная шапірографная газэтка? Колькі пудоў жыта трэба было плаціць за навуку? Кожная дэталь вельмі важная. Важнае таксама апісаньне пазашкольных абставінаў жыцьця: дачыненьні з вучнямі іншых школаў, з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў. Просьба прысылаць на адрас:

Літоўская Рэспубліка
232051 Вільнюс
вул. Жырмуну 52-32
Анішчык Аляксей
або:
Літоўская Рэспубліка
232034 Вільнюс
вул. Парыбё 30а-13
Нюнька Хведар
(тэл.: 620-720 або 738-475)

Нас, выпускнікоў Навагрдзкай Беларускай Гімназіі, засталося ня шмат, і кожны ўспамін спрычыніцца да ўратаваньня народнай памяці пра нашу культурную спадчыну.

### *ФІЛЯТЭЛІСТАМ ПРА ВОЙСКА БНР*

У амэрыканскай публікацыі The Postage Stamps of Russia, 1917-1923. Vol. 3. The Armies and Post Offices. Parts 16-18. Russian Post Offices in the Levant and White Armies. Dr. R. J. Ceresa. January/March 1990. N. 273 на старонках III, 67-82, 173 і 177 зьмешчаныя апісаньні й рэпрадукцыі марак, паштовак Беларускай Народнай Рэспублікі 1919-20 гадоў. Гэта адно з найбольш дэталёвых дасьледаваньняў у беларускай філятэліі БНР-аўскіх марак.

### КНІЖКА ПРА І. ДВАРЧАНІНА

У выдавецтве Варшаўскага ўнівэрсытэту выйшла кніга «Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны». У кнізе (101 бб.) тры нарысы: Аляксандра Бэргман — Ігнат Дварчанін (1895-1937); Ежы Тамашэўскі — Ігнат Дварчанін у Празе (лістапад 1921 — чэрвень 1926); і Аляксандар Баршчэўскі — Ігнат Дварчанін як дасьледнік і папулярызатар беларускай літаратуры.

## ДЗЕЦІ ЗЬ МЕНСКУ Ў КАНАДЗЕ

Група дзяцей зь Менску была гасьцьмі Оўкрыджскае сярэдняе школы гораду Лёндану ў правінцыі Антарыё. Настаўніца гэтай школы сп-ня Коба — украінскага паходжаньня, наша добрая знаёмая. Яна паведаміла нам аб прыезьдзе дзяцей.

Мы са сп. Міколам Шустом арганізавалі ў школе маленькую выстаўку зь беларускім нацыянальным сьцягам, «Пагоняй», партрэтамі Купалы й Коласа, а таксама беларускімі мастацкімі вырабамі сп. Шуста (інкрустацыя саломкай).

Спатканьне зь дзяцьмі было вельмі эмацыянальнае. Калі дырэктар школы запрасіў мяне сказаць пару слоў да дзяцей, я пачаў па-ангельску, падзякаваўшы школе за зацікаўленьне дзецьмі зь Беларусі, а пасьля па-беларуску зьвярнуўся да дзяцей. Цяжка апісаць глыбіню іхнае рэакцыі — пачуўшы раптам беларускае слова, яны спантанічна выбухнулі воплескамі. Тады калі настаўнікі іхныя гаварылі па-расейску, дзеці загаварылі да мяне на чыстай беларускай мове. Акружыўшы нас, дзеці закідалі пытаньнямі аб Беларусах у Канадзе, беларускім жыцьці, аб паглядах канадзкіх Беларусаў на жыцьцё ў Беларусі.

Мы запэўнілі іх, што душою Беларусы Канады разам із сваім народам, што мы моцна перажываем чарнобыльскае няшчасьце, хвалюемся за будучыню Беларусі ды што зробім ўсё, што магчыма, каб дапамагчы суродзічам на Бацькаўшчыне.

Візыт дзяцей выклікаў шырэйшае зацікаўленьне жыхароў Лёндану праблемай беларускіх дзяцей, асабліва з гледзішча на чарнобыльскую катастрофу. Зацікавіўся гэтай праблемай і Антарыйскі ўнівэрсытэт, дзе мне запрапанавалі застацца прафэсарам яшчэ на год часу на катэдры мэдыцыны. Я меў спатканьне з дэканам сацыялягічнага факультэту, а таксама з прадстаўнікамі адміністрацыі ўнівэрсытэту на тэму дапамогі дзецям Беларусі, што пацярпелі ад Чарнобыля. Будуць рабіцца пошукі канадзкіх сем'яў, у тым ліку сем'яў беларускіх, якія згадзіліся-б прыняць у сябе дзяцей на адпачынак і, магчыма, на лячэньне.

Факт спатканьня зь беларускімі дзяцьмі быў вельмі цікавы й прыемны. Аднак канадзкая прэса, падаючы пра яго, напісала пра «расейскіх дзяцей». Я запратэставаў у газэце The London Free Press (13.XI). Гэта выклікала шырокі водгук сярод Канадыйцаў, якія больш пераканальна пабачылі розьніцу паміж Беларусамі і Расейцамі.

Справай дапамогі чарнобыльцам займаецца ў Канадзе Фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Фонд выдае пасьветчаньні ахвярадаўцам, каб яны маглі адлічыць ахвяраваную суму ад падаткаў. Ёсьць усе асновы верыць, што спатканьні Канадыйцаў з запраўднымі ахвярамі чарнобыльскае катастрофы будуць выклікаць спачуваньне і прывядуць да ўзмацненьня справы дапамогі.

Падзяка належыцца дырэкцыі Оўкрыджскае школы, а таксама настаўніцы Надзі Коба, якія так прыхільна спаткалі нашых дзяцей.

Назоў і адрас фонду дапамогі чарнобыльцам: The Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Byelorussia, P. O. Box 4779, Station E, Ottawa K1S 5H9 (Charitable status Nr. 0863977-02).

**Др. Барыс Рагуля**

***Ліст у Рэдакцыю***

## ЖЫЦЬЦЁ «НА МЁРТВАЙ ЗЯМЛІ»

Маё імя Віктар Цярэшчанка, нарадзіўся і рос на Беларусі. Жыву і працую ў Гомелі. Цяпер студэнт International Management Institute (IMI-Kiev). У ліпені і жніўні займаўся ў унівэрсытэце (University of Delaware, Newark, U.S.A).

Мне прыемна ўспамінаць сустрэчы зь землякамі, асабліва ў пачатку жніўня на спартыўным зьезьдзе беларускай моладзі ў Бэлер-Менску ў штаце Нью-Ёрк. Прыемна, што Беларусы — гэта дружная сям'я. Хачу выразіць падзяку Беларусам Аляксандру і Марыі Шостак, што з гораду Вільмінгтону, за гасьцінасьць.

Пішу таму, што далей у такім стане знаходзіцца немагчыма. Нельга не адгукнуцца, нельга маўчаць. Больш за тры гады адзьдзяляюць нас ад таго дня, калі на нашу зямлю, зямлю нашых бацькоў-Беларусаў, на наш цудоўны край абрушылася страшэннае бедства. Чарнобыльская аварыя закранула лёсы мільёнаў людзей. Час не толькі не аслабляе вастрыню яе ўспрыняцьця, але і запрашае нас да дэталёвага, усебаковага асэнсаваньня дзяля зьмяншэньня вынікаў аварыі, прыняцьця далейшых рашэньняў і актыўных дзеяньняў.

Паводля вельмі скромных дадзеных, на долю Беларусі прыпадае 68 працэнтаў яе тэрыторыі забруджанай радыёнуклідамі і 55 працэнтаў — Гомельшчыны. У зоне забруджаньня ад 1 кю/км² і вышэй аказалася звыш аднаго мільёна 200 тысячаў жыхароў толькі аднол Гомельскай вобласьці.

Для зьніжэньня ўзроўню радыёактыўнага забруджаньня вяліся работы па інжынернай і аграмэліярацыйнай дэзактывацыі, комплекснаму добраўпарадкаваньню населеных пунктаў. Але толькі маленькая частка праблемаў такім чынам была зьнятая. Патрабуюцца доўгачасовыя намаганьні і вялікія затраты. У барацьбе за жыцьцё дзяцей, сваё жыцьцё, на жаль, выправабалі ўсе мэтады — накіроўвалі пісьмы з тысячнымі подпісамі на імя Прэзыдэнта, у Вярхоўны Савет СССР і Вярхоўны Савет рэспублікі. Але адказу так і не атрымалі. Што рабіць? Мы чуем ад жывых людзей вынікі гэтай аварыі. Шчытападобная залоза ў дзяцей, лейкацыты... Ставіцца на карту жыцьцё цэлага пакаленьня. Бяда прыйшла і ў маю сям'ю: памёр бацька, цяжка хварэе жонка.

На жаль, я не магу прывесьці лічбы захворваньняў і чалавечых ахвяраў. Пахіснулася вера жыхароў ва ўрад і яго здольнасьць і жаданьне пачуць зранены голас нашай зямлі, соцен тысяч, мільёнаў людзей. Мы бясконца чакаем, ахвяроўваючы сваім здароўем, здароўем сваіх дзяцей, дапамогі ад чыноўнікаў зь Мінздрава і Гідрамета краіны, якія жывуць далёка адсюль, распрацоўваюць свае антыгуманныя, антычалавечыя канцэпцыі. Яны спрабуюць пераканаць нас у тым, што вынікі чарнобыльскай катастрофы жыхарам не пагражаюць, а невялікая доза радыяцыі ледзь не карысная для іх (газ. «Известия», 27.III.90, «Гомельская праўда», 28.IV.90). Вось, напрыклад, выступленьне З. У. Бандарчук, аграпома саўгасу «Стралічава» Хойніцкага раёну ў дзень журбы 26 красавіка на мітынгу ў Гомелі: «...Мы і нашы дзеці жывём побач з калючым дротам, за якім ужо 30-кілямэтровая зона. І нас чакае такая доля. Але жыць на мёртвай зямлі мы яшчэ будзем як мінімум тры гады. Сёньня калектыў саўгасу не працуе. Зразумейце, як можна не працаваць хлебаробу вясной. Мы хочам вырошчваць чысты хлеб і мяса, а ня можам. Дайце нам такую магчымасьць! Мы ня бачым сваіх дзяцей, якіх вывезьлі на аздараўленьне на паўгода, езьдзім да іх у госьці па чарзе. Ці-ж гэта жыцьцё?! А каб зрабіць кватэру ў чыстай зоне, нашы мужыкі адрываюцца ад сем'яў, якія застаюцца пакуль жыць на брудной зямлі».

Хачу заўважыць, што па ініцыятыве народу рэспублікі была прынятая ў красавіку 1990 году пастанова сэсіі Вярхоўнага Савету СССР аб зацьверджаньні Дзяржаўнай саюзна-рэспубліканскай праграмы неадкладных мераў на 1990-1992 гады. У той-жа час хачу падкрэсьліць, што ў пытаньнях забесьпячэньня насельніцтва нямала недахопаў, якія зьвязаныя са слабой арганізацыяй вытворчасьці, нізкай дысцыплінай кадраў, што прыводзіць да несваечасовага завозу тавараў у гандлёвую сетку, недастатковага асартымэнту, асабліва малочнай і мяснай прадукцыі, іх нізкой якасьці.

Трэба сказаць проста, што ўзровень разьвіцьця аховы здароўя, асабліва якасьць мэдыцынскага абслугоўваньня насельніцтва вобласьці, рэспублікі не адпавядае патрабаваньням. Адной з галоўных прычынаў такога становішча зьяўляецца дэфіцыт у мэдыцынскіх кадрах, адсутнасьць неабходнай колькасьці сучаснага абсталяваньня, апаратуры і мэдыкамэнтаў. Для ранньяй дыягностыкі і пасьпяховага лячэньня насельніцтва не хапае ультрагукавой, эндаскапічнай і рэнтгенаўскай апаратуры з электронна-аптычнымі пертвавральнікамі.

Кожны дзень, кожная гадзіна праходзіць пад знакам няўпэўненасьці, страху за сваё здароўе і перш за ўсё — здароўе дзяцей.

Спадзяюся, што выкажу падзяку беларускага народу людзям, якія аказалі пасільную дапамогу ў закупе неабходнага абсталяваньня і мэдыкамэнтаў. Дапамога была-б і ў прыняцьці дзяцей з чарнобыльскай зоны на адпачынак і лячэньне.

**В. Цярэшчанка**
Гомель — Newark

## АД ФОНДУ І ЛЮБАЧКІ

На паседжаньні, што адбылося 1 сьнежня, адміністрацыя Фонду І. С. Любачкі пастанавіла і з прыемнасьцяй падае, што Валянтыну Сельвесюку і Алегу Латышонку прызнаныя стыпэндыі на 1991 год.

Сп. Сельвесюк паходзіць зь Беласточчыны, вучыцца на Ратгерскім у-це ў Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., і пляне атрымаць ступень магістра ў сьнежні 1991 году. Тэма ягонай дысэртацыі: «Авангардныя мастакі ў Беларусі ў 1920-х гадох». Ягоны артыкул George Ohr and Wonderful Wheel нядаўна быў зьмешчаны ў часапісе Arts and Crafts Quarterly.

Сп. Латышонак, навуковы супрацоўнік Палянаведнага Інстытуту Ягелёнскага ў-ту ў Кракаве, цяпер знаходзіцца ў Нью-Ёрку, дзе займаецца дасьледаваньнем гісторыі беларускай эміграцыі ў ЗША для свае доктарскае працы.

**Адміністрацыя Фонду І. С. Любачкі**

***СТУДЗЕНЬ — ПЕРШЫ МЕСЯЦ ГОДУ І ДАЕ ЁН НАМ НАГОДУ ЗА ГАЗЭТУ ЗАПЛАЦІЦЬ, КАБ СПАКОЙНА ЎВЕСЬ ГОД ЖЫЦЬ!***

УВАГА! УВАГА!

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901

**Адміністрацыя**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| М. Махнач | ам.д. 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |

*Праз нашага прадстаўніка ў Сыднэі сп. М. Лужынскага:*

| | |
|---|---|
| Антух М. | аўстр. д. 50 |
| Бакуновіч А. | 50 |
| Бакуновіч Л. | 50 |
| Бакуновіч М. | 50 |
| Яраховіч С. | 50 |
| Кобрын В. | 50 |
| Ліпскі В. | 50 |
| Мілеўскі М. | 50 |
| Качан О. | 50 |
| Нарушэвіч С. | 50 |
| Парэцкі Л. | 50 |
| Русак У. | 50 |
| Сазановіч М. | 50 |
| Сіткоўскі К. | 50 |
| Стукач В. | 50 |
| Хаванская А. | 50 |
| Радзевіч У. | 50 |
| Гавенчык Я. | 35 |
| Усяго | 885 |
| М. Лужынскі ахвяраваў на рассылку «Беларуса» | 117 |
| Усяго | 1002 |

*Праз нашага прадстаўніка ў Кліўленьдзе сп. А. Стрэчаня:*

| | |
|---|---|
| К. Калоша | ам.д. 100 |
| С. П. | 60 |
| А. Стрэчань | 50 |
| М. Стрэчань | 50 |
| Я. Ханенка | 45 |
| А. Сацэвіч | 45 |
| а. М. Страпко | 45 |
| Я. Каваленка | 40 |
| К. Матальцкі | 30 |
| І. Каляда-Сьмірнова | 30 |
| В. Яцэвіч | 25 |
| Т. Кананчук | 25 |
| Я. Раковіч | 25 |
| П. Даймэн | 25 |
| А. Яраховіч | 25 |
| Ю. Гасьцееў | 25 |
| С. Махахей | 25 |
| Т. Лук'янчык | 20 |
| В. Стрэчань | 25 |
| З продажу паасобнікаў | 123 |
| Усяго | 838 |

*Праз нашага прадстаўніка ў Нью-Брансьвіку сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Б. Даніловіч | 100 |
| В. Стома | 100 |
| С. Гутырчык | 50 |
| Сэктар Рады БНР у Н.-Дж. | 50 |
| Я. Яновіч | 45 |
| Я. Азарка | 40 |
| А. Клімовіч | 30 |
| А. Семянчук | 30 |
| Э. Пітушка | 25 |
| Л. Кавалёў | 25 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| Я. Сапежынскі | 20 |
| У. Харавец | 20 |
| а. В. Андрэюк | 20 |
| В. Дубяга | 20 |
| Ю. Азарка | 20 |
| А. Дубяга | 20 |
| Я. Літвіненка | 20 |
| К. Міраковіч | 10 |
| Усяго | 665 |

Усім ахвярадаўцам, падпісчыкам і нашым паважаным прадстаўнікам вялікі дзякуй! **Рэдакцыя «Беларуса»**

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

*СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ*

*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка й Хрыстафор*
*Акула Надзея, Кастусь, Юрка й Альгерд*
*Андрусышын Юля, Павал, Юрка й Данчык*
*Андрэюк а. Васіль, матушка Вольга і дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Балкоўскія Зофія*
*Варэла Рагнеда, Кенэт, Язэп, Кіра й Ашлы*
*Бартуль Вера, Франьціш і Антон*
*Бяленіс Людвіка й Антон*
*Войтэнка Марыя*
*Грабінскі Балеслаў*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна й Сяргей*
*Даніловіч Аляксандра, Браніслаў і Эдзік*
*Дубяга Жэня, Алег, Юльян і Тамаш*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Дубяга Генадзь малодшы*





*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Жук-Грышкевіч Раіса*
*Заморскія Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Янка й Вера*
*Зданковіч Алесь зь сям'ёй*
*Кажан Люба й Віталь, Маргарыта й Юля зь сем'ямі*
*Кажура Марыя й Пётра*
*Калоша Кастусь*
*Каляда Клаўдзія й Юрка*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Карніловіч Сяргей*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Марыя*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка*
*Кушаль Натальля*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Янка*
*Лужынскія Надзея, Міхась, Гэлена й Нэля*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*Мілер Элеанора, Язэп Эмілія й Джашўа*
*Мірановіч Поля, Кастусь, Янка й Каця*
*Міхалюк Лёля й Янка*
*Муха Клава, Ігар і Дэніс*
*а. Надсон Аляксандар*
*Найдзюк Юзэфа й Часлаў зь сям'ёй*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Нікан Лена й Мікола*





*Норык Кінуся, Лёня й дзеці*
*Орса-Рамана Ала й Франьціш, Павал і Коля*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Рамук Вера й Вітаўт зь дзецьмі*
*Сапежынскія Надзея й Мікола*
*Сапежынскія Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Семенчук Анна й Анатоль*
*Сільвановіч Міхась, Ніна, Аляксандар і Андрэй*
*Скабей Мікалай*



*Стагановіч Марыя й Лявон*
*Станкевіч Джоан, Вячка й хлопцы*
*Станкевіч Раіса*
*Стома Ніна й Васіль*
*Прат а. Страпко Міхась зь сям'ёй*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвіла Івонка й Янка зь дзецьмі*
*Сьліўка Уладзімер (Валодзя)*
*Сяўковіч Янка зь сям'ёй*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Ханенка Ліда й Янка*
*Харавец Галя, Уладзімер (Валодзя)*
*Шукелайць Антон*
*Шуст Галена й Мікола*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Юхнавец Іра, Янка, Канстантын*
*Яновіч Валя й Янка*

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ**
вітае ўсіх сяброў і суродзічаў на Бацькаўшчыне і за мяжой ды жадае ўсім
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА Й ПАМЫСНАГА 1991 ГОДУ!**







**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

*Шчыра вітае ўсіх сваіх вернікаў, усіх суродзічаў-Беларусаў і прыяцеляў БАПЦ з Раством Хрыстовым і Новым 1991 годам. Няхай Усемагутны ахоўвае ўсіх нас Сваёй апекай і дазваляе нам спакойна маліцца ў нашых сьвятынях. Будзем-жа прасіць і надзеяцца на Ягоную ласку.*
*Ветліва просім пасылаць калядныя ахвяры на Кансысторыю БАПЦ.*

*BAOC (Attn. Mr. Silwanovich), 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904*

*За Вашую дапамогу будзем Вам шчыра ўдзячныя.*
*Няхай ласка Божая будзе з Вамі.*
*З даручэньня Першагіерарха БАПЦ*
*Архіепіскапа Мікалая*
**Архім. а. Карп Стар**

***ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ***
*жадае сваім сябром і прыхільнікам*
***ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ і ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!***

**СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ-ДЖЭРЗЫ (ЗША)**
*вітае ўсіх сваіх супрацоўнікаў і прыхільнікаў*
**З КАЛЯДНА-НАВАГОДНІМІ СЬВЯТАМІ**
*ды жадае ўсякае памыснасьці ў асабістым жыцьці і грамадзкай працы!*

***ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ***
вітае сваіх сяброўак і сяброў ды ўсё беларуска-амэрыканскае грамадзтва з
***КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ Й НОВЫМ 1991 ГОДАМ!***
*Чакайце на нашых калядоўшчыкаў 8 студзеня ў Нью-Джэрзы, а 14-га ў Нью-Ёрку!*

***УПРАВА ПАРАФІІ ЖЫРОВІЦКАЙ БОЖАЙ МАЦІ БАПЦ***
***у Гайленд-Парку, Н.-Дж.***
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў і прыяцеляў*
***З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ***
*ды жадае добрага здароўя й шмат шчасьця ў НОВЫМ ГОДЗЕ!*

**УПРАВА АДЗЬДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ СЬВЯТАЎ ДЫ ЎСЯКАЕ ПАМЫСНАСЬЦІ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!**